*Зважай! Літва йдзе!*

L I T V A

жнівень

# ЛІТВА

*Друкуецца ў літоўскае мове*

L I T H U A N I A

*Зроблена 28 жніўня 1995 году № 3(3)*



Суседзі

## Адкуль прыйшлі да нас татары?

بِسْمِ ٱللَّهِ ٱلرَّحْمَٰنِ ٱلرَّحِيمِ

*(ў імя Аллага літасьцівага міласэрнага)*

Татары зьявіліся на Літве напрыканцы XIV стагодзьдзя. Гэта былі прыхільнікі хана Тахтамыша, якія мусілі шукаць тут прытулку, уцякаючы з Залатое Арды пасьля паразы ў міжусобнай барацьбе. Дальнабачны палітык, Вялікалітоўскі князь Вітаўт зычліва прыняў іх, узяўшы на вайсковую службу ды выдзяліўшы землі для ладжаньня гаспадаркі на Віленшчыне й Меншчыне. Татары паставілі хаты, збудавалі мячэты. Яны дужа паважалі Вітаўта за добрае стаўленьне да Ісламу, называлі яго сваім Ханам, Гаспадаром, апірышчам Ісламу на Захадзе. Літоўскія татары на чале з Джалал эд-Дзінам прынялі чынны ўдзел у Грунвальдзкай бітве,спрычыніўшыся да перамогі над крыжакамі.

Колькасьць татараў нашае дзяржавы павялічвалася ў выніку натуральнага прыросту,эміграцыі з Паволжжа, а таксама за кошт крымскіх татараў, якіх бралі ў палон падчас іх набегаў на Літву ў XV — XVI стагодзьдзях. Татары, што жылі ў местах і мястэчках, займаліся рознымі рамёствамі: гарбарствам (апрацоўка скураў), рымарствам (выраб коннае вупражы), кушнэрствам (пашыў вырабаў з футра), а таксама агародніцтвам, рамізьніцтвам (фурманствам), а пазьней -- праклад-каю чыгунак. Ужо на пачатку XVI стагодзьдзя татары перайшлі на літоўскую мову, толькі малітвы (намазы) засталіся на арабскай ды чагатайскай (усходнецюркскай) мовах. У татарскіх сем'ях захаваліся сьвятыя для мусульманаў рукапісныя кнігі - Кур'ан, Тэфсір, Хамаіл. Вельмі цікавыя рукапісныя Аль-Кітабы, напісаныя арабскімі літарамі, але на літоўскай ды польскай мовах. Гэтыя кнігі надзвычай каштоўныя й

*працяг на 2-ой старонцы*



*Татарскі ротмістар ў войску Вялікага Княства Літоўск*

Пагляд

## Люд Паспаліты Зямлі Тутэйшае!

Зьвяртаюся да Вас з надзеяй на паразуменьне. Ці варта надалей спасылацца на несьвядомасьць мясцовага жыхарства, а тым больш казаць, маўляў, вы «беларусы», ніяк не жадаеця зразумець, што вы насамрэч «беларусы», а не палякі, расейцы, украінцы ці жамойты, што толькі своя непадзельная «Беларуская Дзяржава» — гэта добра й на'т больш таго — гэта трэба! А простага пытаньня сабе, спадарове адраджэнцы, не задасьцё: а ці гіснавалі ўвогуле тыя «беларусы» ў вашым разуменьні як кансалідаванае грамадзтва, ці была гэта калісьці супольная унітарная нацыя? Можа годзе ўжо карміць людзей казкамі пра сьветлыя валасы, белую апратку ды чысьціню веры нашых продкаў, хаця апошняе было-б няблага. Можа досьць ўжо пошукаў тае мітычнае адзінае «Беларусі» ў межах расьселенасьці «беларускага» этнасу?

Я незнарок на пачатку гэтага артыкулу мясцовае насельніцтва назваў Людам Тутэйшым, бо менаваць яго ўсё цалкам «беларусцамі» (чытай — белымі расейцамі) не дазваляе сумленьне ды яшчэ тое, што завуць генэтычнаю памяцяй. Ня трэба, я думаю, аб'ядноўваць тое, што аб'яднаць нельга. Няхай лепш кожны чалавек (я маю на ўвазе нацыянальна азначанага тубыльца) вырашыць для сабе, хто ён, абы гэта было яму на карысьць. І калі гэты чалавек «беларус», які й не жадае чуць пераканаьні ў тым, што гэта ня так, і выбірае сабе Незалежную Беларусь, - калі ласка. Калі-ж, паразважаўшы трохі над гістарычным мінулым свайго Краю, тутэйшы чалавек абярэ сваёй радзімай Крыўю, і палічыць сабе крывіцкае крыві, ды будучыню сваю ня бачыць без Самастойнае Крыўі, дапамажы яму, Божа, ў ягонае справе! Але, калі ўсё-ж для кагосьці ня мае сэнсу жыцьцё бяз адраджэньня Вялікае Літвы й далейшую будучыню ён проста не ўяўляе бязь Літоўскае Нацыі — вольнае, самастойнае ды заможнае, і што быць літоўцам (ліцьвінам, летувісам) для гэтага чалавека значыць больш чым проста назоў, тады ніхто яму не забароніць гуртаваць вакол сябе людзей, шукаць аднадумцаў і працаваць дзеля ажыцьцяўленьня сваёй мэты,- Бог ў дапамогу! Хай гэта будуць адносна малыя па памерах нацыянальныя гаспадарствы, але са здаровай **нацыянальнай** палітыкай, здольнай да выйсьця з **агульнанацыянальнай** крызы.

Прадчуваю, што мяне пасьля гэтых развагаў абвесьцяць ворагам народу, аблаюць сэпаратыстым ці яшчэ кімсьці, хто акрамя блага ды шкоды нічога больш ня зычыць «беларускаму народу». Я палічу гэта натуральным і на'т не пакрыўджуся, бо такія думкі не сваечасовыя, і неразуменьне большасьцю для мяне прадбачліва. Але лепей было-б, на мой пагляд, каб кожная плынь сучаснага адраджэньня (ці нараджэньня?) выбрала-б свой шлях да выйсьця з агульнанацыянальнага заняпаду. Бо так ў вайсковай выведцы, калі, каб вызначыць кірунак свайго далейшага рушаньня па незнаёмай мясьціне, камандзер высылае некалькі брыгадаў на папярэднюю азнаямленьне зь мясцовасьцю й за таей брыгадаю, якая знойдзе зручнейшы ды бясьпечны шлях, і рушаць далей. Так і ў гэтай справе: кожны, хто лічыць сябе нозьбітам ісьціны, няхай намацвае кірункі сваёй «хады ў будучыню», хай працаю, дзеяньнямі дакаэвае, што ён правы, і калі сапраўды так надарыцца, за йім пойдуць людзі. Таму заклікаю не спасылацца на аморфнасьць ліцьвіноў (крывічоў, беларусоў), ня лаяць іх гаротны лёс, што йім не шанцуе на ўладароў, а рабіць справу ды працаю даказваць сваю рацыю.

**P.S.** Толькі ня трэба думаць, што мае меркаваньні разаб'юць ня надта моцныя шэрагі Нацыянальнага Вызвольнага Руху. Варагаваньня зь людзьмі йіншае думкі ня будзе! Усе нозьбіты Нацыянальнае Ідэі — гэта кампаньёны, бо пазбаўленьне ад якога-кольвечы прыгнёту (ў дадзеным выпадку расейскага) — гэта наша агульная мэта!

*L.I.S.*

## Суседзі

працяг, пачатак на 1-ай старонцы

для ліцьвінаў. Яны — унікальныя помнікі старадаўняе размоўнае літоўскае мовы, бо арабіца, ў адрозьненьні ад царкоўнае кірыліцы й лацінкі, выдатна перадавала асаблівасьці гучаньня літоўскае мовы.

За 600 гадоў, якія татары жывуць на гэтае зямлі, яны вельмі шмат ўзялі ад ліцьвіноў, але й самі зрабілі некаторы ўплыў на йіх, а менавіта навыкі ў конегадоўлі, агародніцтве, гарбарстве. Добрая частка слоў татарскага паходжаньня ўжываецца ў літоўскай мове (кава, кайданы, баран, брага, гарбуз, гайда (покліч), жупан, кутас, тытунь, карчма і яшчэ каля дзьвух тысячаў). Татараў мелі ў сваіх радаводах слынныя літоўскія знакамітасьці — Генрык Сянкевіч, Франьцішак Багушэвіч, Янка Станкевіч. Татары па паходджаньню і вядомыя філолагі — Антон Мухлінскі, Сьцяпан Алексан-дровіч.

Сёньня на Літве жыве больш за 12 тысяч татараў, якія ўтвараюць асобны этнас, як то крымскія ці казанскія. Асаблівасьці літоўскіх татараў ў тым, што за родную мову яны ўважаюць літоўскую. Зараз створаны культурна-асьветніцкае згуртаваньне «Аль-Кітаб» і мусульманскае рэлігійнае аб'яднаньне, якія выдаюць часопісы «Аль-Іслам», «Байрам». У месьце Слонім і мястэчку Іўе на Гарадзеншчыне дзейнічаюць мячэты. Будуюцца мячэты ў Навагрудку ды Сьмілавічах.

أَلسَّلَامُ عَلَيْكُمْ وَرَحْمَةُ اللّٰهِ تَعَالَى وَبَرَكَاتُهُ

*(Мір Вам, міласьць Аллага Найвышэйшага й Яго багаслаўленьне)*

**Ібрагім Канапацкі**, *кандыдат гістарычных навукаў, дацэнт, віцэ-прэзыдэнт Беларускага (Літоўскага) Згуртаваньня Татараў-Мусульманаў «Аль-Кітаб».*



***Менская мячэта, якая знаходзілася на месцы гатэля "Юбілейны" і была зруйнаваная ў 60-ыя гады нашага стагодзьдзя.***

## Паданьні

### Літоўская казачка

Даўно тое было. За нейкія правіннасьці выгнаў Пан Бог людзей з райскага саду ды спусьціў на грэшную Зямлю. Жыцьцё йіх пры гэтым, натуральна, нашмат ўскладнілася, але нягледзячы на мор, голад ды войны станавілася йіх ўсё болей ды расьсяляліся яны па ўсёй Зямлі. Шмат непрыемнасьцяў падпільноўвала людзей у йіх штодзённым жыцьці, і кожны чалавек пры любой, нават самай малой патрэбе зьвяртаўся за дапамогаю да Пана Бога. Ведалі людзі, што хаця й саграшылі перад йім, але ж пачуе Ён і дапаможа. Ды вось зь цягам часу ўсё цяжэй стала Яму адказваць на маленьні й просьбы людзкія. І не таму, што не хапала сілаў — мы ж ня дзеці й ведаем, што Ён — ўсемагутны. Проста надта шмат йіх стала ды вельмі шырака расьсяліліся яны па Зямлі. Як жа тут знойдзеш ды супакоіш менавіта тую самую душу, што чакае дапамогі ад Пана Бога? Блытаніна была-б ўвесь век, калі-б не дадумаўся Пан Бог да простага выйсьця — раздаць кожнаму Роду Людзкому па сваёй мове.

І пасьля гэтага выпадку як пачуе Ён маленьні на якой-небудзь мове, дык адразу ведае, ў якой зямлі знаходзіцца чалавек, што шукае Ягонае дапамогі.

І ўсё, здаецца, йішло сваім парадкам, але зь нейкіх прычынаў пачаў забывацца Народ Літоўскі на мову сваю ды звычаі продкаў. Ці то лёс йіхны быў не такі шчасьлівы, ці можа штодзённыя клопаты пра кавалак хлеба ды лапіну палатна на плечы загарадзілі ад йіх ўсё сьвятое, ды не заўважылі яны, як засталіся жабракамі пры тым багацьці, што пакінулі йім продкі, і сіратамі пры яшчэ жывой забытай йімі-ж матчынай мове.

Азірнуліся яны навокал, ўбачылі разлад і запусьценьне на сваёй ніве ды зьвярнуліся да Пана Бога. Але-ж маленьні йіх гучалі ці то папольску, ці то парасейску, ці яшчэ на невядома кім прыдуманай мове, і ня змог знайсьці Пан Бог тых, хто зьвяртаецца да Яго. Пачуўшы просьбы папольску, накіроўваў Ён міласьць на Польскую Зямлю. Чуў стогны ды енкі парасейску — і адорваў сваёю ласкаю Расейскія Землі. І цяжка было зразумець тое, што чым большаю была Яго дапамога, тым стогны й маленьні станавіліся ўсё мацнейшыя.

І тады адвярнуўся Пан Бог ад Літоўскага Народу. Бо як жа можна зразумець, што народ, меўшы прыгожую, слынную гісторыю ды багатую культуру, можа згубіць сваё аблічча? А калі ад зямлі адвернецца Пан Бог, ведама, хто на гэтай зямлі пачынае панаваць.І здараюцца там няшчасьці адно горш другога, і роспачы людзкое ня будзе канца.

Чакалі людзі помачы то з захаду, то з ўсходу, але нічога, акрамя пакут, гора ды сьлёзаў не дачакаліся.

І ня будзе йім помачы ад Пана Бога, ня будзе шчасьця ды радасьці на роднай зямлі, пакуль ня ўзгадаюць, што яны нашчадкі вялікага народу, пакуль не адродзяць культуру — найгалоўнейшы скарб, што спакон веку перадаецца з пакаленьня ў пакаленьне.

***Ў.Н.***

### Вяртаньне аблудлых сыноў
(1772 - 1992)

Ноч. Кацярынінскі шлях. Рагачоўскі мост.
Пад былою цыганскай дарогай, наўпрост
Нясе думную плойму вады Дняпро
Між лугам Вікоўскім, Збароўскай гарой.

Двое на мосьце. Золатам Млечны - па дне.
Парожні мяшок з Калымы залатой на сьпіне.
Крымскія стэпы страсае с падэшваў другі -
Пыл пахне віном, і травой маладой - берагі.
"Тихо дома у нас, хорошо,... т-твою мать"...

У хаце `ля мосту сівыя габрэі ня сьпяць.
`Ля берагу ў цёплым тумане, на цёплай вадзе
Нехта трэці аднекуль кудысьці брыдзе.
"Эй вы наверху! Помогите, не доберусь...
Я из Минска" - "Куда!" - "В Беларусь".

Мост рагачоўскі рагоча, ракоча вада да дна.
Трэці пад мостам самотна стаіць да відна, -
Мрояцца здані ў тумане: немец, расеец ды лях...
Ўзыходзіць вада Караткевіча на Кацярынінскі шлях, -

Сьвітае. На ганку сівыя габрэі стаяць -
Беларусаў аблудлых выйшлі страчаць.
За гарою пытае крывіцкая Друць:
"А хто там ідзе?" - адказаў іудзей:
"Беларусы"...

Брыдуць дзьвесьце дваццаць расейскіх гадоў
Кацярынінскім шляхам ў Збароў і Вікоў.
Над йімі тры чорныя птушкі крычаць...
Габрэі пад небам славянскім маўчаць.

**Мікола Купрэеў**

## Было

### Братні саюз Літоўскае моладзі

Патаемная арганізацыя, якая гіснавала на Літве ў 1846 - 1849 гадох. Заснаваная ў Вільні зьбяднелымі шляхціцамі братамі Хв. і А. Далеўскімі. Першапачаткова асноўныя намаганьні накіроўвалі на зьяднаньне вучнёўскае моладзі, падрыхтоўку яе на ўзор *філаматаў* і *філарэтаў* да доўгатэрміновае працы па адраджэньні маралі й духоўнасьці грамадзтва. Меў за мэту усталёўваць справядлівасьць, павагу да людзей незалежна ад іх веравызнаньня ды нацыянальнасьці, садзейнічаць паляпшэньню становішча сялян і мескай беднаты, спрыяць нацыянальна-вызвольнай барацьбе, посьпех якой ўвязваўся з агульнадэмакратычнымі пераўтварэньнямі ў Расеі й Польшчы. У 1848 годзе ў саюз ўвайшлі разначынцы, аднадворцы, дробная шляхта, рамесьнікі. Пад ўплывам рэвалюцыйных падзеяў у Заходняе Эўропе й ў сувязі са зьменамі ў сацыяльным складзе аргані-зацыі яе праграма набыла больш радыкальны характар. Найбольш актыўную дзейнасьць саюз разгарнуў на прыканцы 1848 г. - сакавіка 1849 г, калі ладзілася актыўная падрыхтоўка антыўрадавага паўстаньня, прызначанага на 5-га красавіка 1849 г. Ён наладзіў супрацоўніцтва з канспіратыўнай арганізацыяй, якая дзейнічала ў Менску. Сябры саюзу праводзілі рэвалюцыйную агітацыю ў Горадні, Лідзе, Навагрудку, Слоніме ды іншых местах Літвы, спрабавалі залучыць на свой бок жаўнераў Бабруйскае крэпасьці й Менскага гарнізону. У фальварку Бараўляны пад Менскам была наладжана адліўка куляў. Аднак 27-га сакавіка, незадоўга да прызначанага тэрміну паўстаньня, пачаліся арышты. Да сьледства было прыцягнута каля 200 чалавек. Кіраўнікі і найбольш актыўныя сябры саюзу былі прыгавораныя да пакараньня сьмерцю, замененым катаржнаю працай ад 10 да 15 гадоў, астатнія былі засуджаны на розныя тэрміны катаргі, або аддадзеныя ў жаўнеры. Рэпрэсіі не прымусілі сябраў саюзу здрадзіць сваім ідэалам. Шмат хто зь іх ўдзельнічаў ў паўстаньні 1863 - 1864 гадоў.

*паводле Энцыклапедыі Гісторыі Беларусі (Літвы) 1994 г., т.2, с.72.*



*Лідзкі замак*

## Дата

### 51 год Беларускай Краёвай Абароны

*працяг, пачатак ў 1-ым і 2-ім нумарох*

25-га сакавіка ў Менску на Катэдральнай плошчы (плошча Свабоды) адбылася ўрачыстая прысяга БКА ў паасобных батальёнах. Гэта былі курсанты афіцэрскай і падафіцэрскай школаў. Прысяга адбывалася ў прысутнасьці прэзыдэнта БЦР Радаслава Астроўскага, генэральнага камісара Курта фон Готтбэрга, прадстаўнікоў нямецкае арміі, цывільнае адміністрацыі ды вялікага натоўпу народу. Але складанасьці з правіянтам, недахоп зброі й апраткі рабілі становішча ў БКА напружаным, ды партызанская прапаганда ня спала й нядзіва, што дысцыпліна ў войску зьніжалася, расло дызэртырства. Таму ў сярэдзіне траўня Астроўскі быў вымушаны прывесьці асабовы склад БКА ў адпаведнасьці з наяўнай зброяй. Так паступова зьмяньшаўся першапачатковы склад гэтае вайсковае фармацыі й колькасьць добраахвотнікаў ў апошнія месяцы акупацыі яшчэ больш зьнізілася. У другой палове траўня пачала паступаць зброя, і толькі цяпер ўсё яшчэ слаба ўзброеныя асобныя батальёны пачалі выкарыстоўвацца ў барацьбе супраць партызанаў. 15-га чэрвеня былі адкрытыя дадатковыя афіцэрскія курсы камандзераў БКА.

Калі Літва была вызваленая ад акупантаў нямецкіх і перайшла ў рукі акупантаў расейскіх, тады разам зь немцамі былі эвакуяваныя й батальёны БКА. Некаторыя з адыходзячых батальёнаў, якія былі нядужа добра падрыхтаваныя да вайсковых дзеяньняў ды мелі дрэннае ўзбраеньне, трапілі ў савецкі палон. Лёс трапіўшых ў акружэньне жаўнераў амаль невядомы, але вядома, што літасьці да іх ня было.

Пасьля гэтае бібліяграфічнае даведкі пра гісторыю фармаваньня БКА мушу паставіць на ўвагу той факт, што жаўнеры БКА — гэта ня здраднікі, што яны ня былі прыслугоўцамі фашыстаў, бо для юнака ці ўжо сталага гаспадара, якія сьвядома йішлі ў шэрагі БКА, гэта вайсковая фармацыя была ня йнакш як Літоўскім Войскам, мэтаю якога было вызваленьне Літвы ад савецка-партызанскае навалы.

Натуральна, што наступным крокам ў справе вызваленьня было-б абвяшчэньне Незалежнае Літвы, бо Астроўскі разумеў, што немцы хутка будуць пераможаны Саветамі, і гэты час, калі нямецкія ўлады ўжо эвакуяваньня, а савецкія пакуль ня прыйшлі й трэба будзе выкарыстаць. Гэтую сітуацыю разумела большасьць з тых, хто дабраахвотна рушыў на мабілізацыйныя пункты.

Але планы Астроўскага былі значна парушаныя Готтбэргам, які таксама разумеў, дзеля чаго было ініцыявана стварэньне БКА. А інтарэсы Готтбэрга былі скіраваныя зусім ў йіншае рэчышча, бо, ствараючы гэтую вайсковую фармацыю, ён хацеў бачыць БКА ў шэрагах нямецкае арміі й да таго ж ў невялікае колькасьці (штосьці каля 10 тысячаў). Бо летам 1943 году добра ўзброеная, уключаючы артылерыю й танкі, апранутая ў нямецкія уніформы, расейская брыгада пад камандзерствам Родионова, якая стаяла ў мястэчку Лужкі, абстраляла з артылерыі й спаліла мястэчка Каралеўшчына каля Глыбокага, разьбіла нямецкія абарончыя бункеры ды перайшла на бок савецкіх партызанаў. Гэты факт меў пера-конваючую вагу для немцаў.

Таму ў БКА пасьля ўсіхператасовак засталося ўсяго некалькі дзесяткаў тысяч жаўнераў, частка зь якіх потым цалкам перайшла пад нямецкае кіраўніцтва. Вось чаму адзіным выйсьцем ў выпадку наступу савецкай арміі была абраная эвакуацыя. Хіба можна было сур'ёзна думаць пра супрацьдзеяньне мільённай наступаючай армадзе?

Яскравым прыкладам таго, як ліцьвіны дзейнічалі пасьля эвакуацыі БКА, ёсьць Аляксандар Качан (Кастусь Акула) — ведамы дзеяч літоўскага замежжа, які ў чэрвені 1944 году паступіў дабраахвотнікам ў Менскую Школу Камандзераў БКА, а праз колькі тыдняў — эвакуацыя навучальнае ўстановы, якая так і не пасьпела афіцыйна адкрыцца. Чыгуначныя эшалоны, бамбаваньне, першыя маршы па дарогах Эўропы. Напрыканцы жніўня таго-ж году Школа арганізавана перайшла да французкіх партызанаў-макісаў.

Пасьля Алесь ўступіў ў 8-ую Брытанскую Армію ў Італіі, браў ўдзел ў баёх з фашыстамі на Апэнінскай паўвыспе, памяткаю аб чым засталіся ўзнагароды — ангельскі «Медаль за вайну» ды «Зорка Італіі». Такім жа чынам дзейнічалі шмат якія літоўскія адзьдзелы, якія накіроўваліся немцамі ў Францыю (пасьля нямецкае кіраўніцтва накіраваньне адзьдзелаў БКА ў Францыю лічыла за памылку).

Але вядомую дывізію «Беларусь», якую ўзначальваў Франц Кушаль, спасьцігнуў больш гаротны лёс. Пасьля таго, як яна арганізавана перайшла на амэрыканскі бок, па дамове амэрыканцаў з саветамі вялікая частка ліцьвінаў трапіла як ваеннапалоныя ў бальшавіцкія рукі. І ўсе тыя, хто апынуўся ў савецкіх руках, былі рэпрэсаваныя. Сьляды йіх далейшых крокаў, для шмат каго апошніх крокаў жыцьця, сёньня ўжо зацёртых, шукаць трэба пры сьценах бальшавіцкіх катоўняў, на шыбеніцах ці ў сьцюдзёных бязьлюдных абсягах мачыхі-Сібіры. Гэтыя факты яшчэ раз падкрэсьліваюць тое, што ліцьвіны йішлі ў БКА з мэтаю стварэньня надалей Вольнай Незалежнай Бацькаўшчыны.

*Матар'ял рыхтаваўся паводле наступнае літаратуры:*


**Язэп НАЙДЗЮК, Іван КАСЯК** *«Беларусь ўчора й сяньня»: Менск, «Навука і тэхніка», 1993;*

**Юры ТУРОНАК** *«Беларусь пад нямецкай акупацыяй»: Менск, «Беларусь», 1993;*

**Кастусь АКУЛА** *«Змагарныя дарогі»: Менск, «Мастацкая літаратура», 1994.*


**Ўладзімер Міхневіч**

## Паўстаньне

*працяг, пачатак ў 2-ім нумары*

30-га верасьня ў Горадні ў каралеўскім палацы адбылася нарада кіраўнікоў паўстаньня, на якой было вырашана пакінуць Літву. Ясінскі, які цяпер камандаваў дывізіяй, што знаходзілася на Беласточчыне й прыкрывала адступленьне войскаў зь Літвы ды Жмудзі, атрымаў ад Касьцюшкі пярсьцёнак з надпісам «Айчына свайму абаронцу», які адыгрываў ролю ордэна. Гэта была апошняя сустрэча Якуба Ясінскага й Тадэвуша Касьцюшкі.

Праз дзень войскі пакінулі Горадню, з гэтага часу на Літве панаваў поўны спакой. Пасьля паражэньня пад Мацаевіцамі 10-га кастрычніка, калі Касьцюшка трапіў ў палон, стала відавочным, што кампанія прайграная. Войскі сьцягваліся да Варшавы, туды-ж накіроўваўся й Ясінскі. Радыкалы прапанавалі паставіць яго на месца Касьцюшкі, але начальнікам стаў кансэрватар Томаш Ваўжэцкі, падтрыманы магнацкай групоўкай.

Варшава актыўна рыхтавалася да асады. Уздоўж Прагі (прадмесьця Варшавы), былі ўзведзеныя рэдуты, на якіх замацавалі артылерыю. Ясінскі камандаваў левым (паўночным) крылом. 2-га лістапада зьявіліся войскі Суворова. 25 тысяч «чудобогатырей» з 80 гарматамі буйнага калібру зьбіраліся ўзяць места, які бараніў 18-ці тысячны гарнізон са 104 гарматамі.

Цяпер падрабязна пра штурм Прагі, які, па-сутнасьці, быў апошняй бітвай войска Рэчы Паспалітай Вялікага Княства Літоўскага й Каралеўства Польскага. Як сьцьвярджае польскі гісторык Генрык Масьціцкі, расейскім жаўнерам было раздадзена «для ўздыма настрою». Акрамя гэтага, генэралісімус Суворов сказаў сваім жаўнерам кшталту: «што зрабуеце — тое вашае».

Увесь дзень 3-га лістапада працягваўся абстрэл ўмацаваньняў паўстанцаў зь цяжкой артылерыі. Уноч на 4-га лістапада расейскія батальёны палезьлі на рэдуты. Некалькі гадзінаў штык і шабля з асаблівай зацятасьцю выконвалі сваю гнюсную справу. Рэдка калі біліся з такой жорсткасьцю, як на подступах да Прагі. Зразумела: за плячыма палякаў і ліцьвінаў была Варшава, страта якой — гэта страта незалежнасьці. Перад расейцамі Варшава... нерабаваная.

Пад раніцу цэнтральныя і правыя (пайднёвыя) рэдуты былі прарваныя, і

## Легендарны генэрал

сувораўскія жаўнеры рынуліся ў прадмесьце. Толькі частка рэдутаў працягвала стрымліваць ворага. Варта ўспомніць «Пана Тадэвуша» А.Міцкевіча:



Вунь і Ясінскі, прыгажун,
пры поўнай зброі,

А побач Корсак, верны
сябра, — два героі

Ў аконах Прагі шаблямі
сякуць ўмела

Па маскалёх, што пруць
і пруць асатанела,

Па грудах трупаў, праз
пажарышчы ў прадмесьці.

Няма ўжо габрэйскага палка, цалкам выбіты атрад літоўскіх дабраахвотнікаў. Але бой працягваецца. Няма ўжо вернага сябра Тадэвуша Корсака, віленскага земскага судзьдзі, што кіраваў паўстанцамі Віленскай акругі. Але й цяпер расейцы ня могуць апанаваць места. Як напісаў потым генэрал Тышкевіч, раптам ўзьляцеў ў паветра парахавы склад. Гэта спыніла на некаторы час наступоўцаў, але, калі расьсеяўся дым, пад рэшткамі складу застаўся ляжаць генэрал-лейтэнант паэт Якуб Ясінскі, які так і ня выпусьціў шаблю з халаднеючай рукі. Пакідаючы Вільню, ён прысягнуў сваім прыяцелям, што лепей памрэ, але ня здасца. Ён стрымаў слова...

На наступны дзень цэнтар паўстаньня — Варшава — капітуляваў...

**P.S.** Ў адрозьненьні ад нас палякі добра ведаюць герояў паўстаньня 1794-га году. Была выдадзеная кніга вершаў Якуба Ясінскага, якія захаваліся ў рукапісах. Наш суайчыньнік Адам Міцкевіч напісаў паэму «Якуб Ясінскі». Пра славутага генэрала выйшла шмат літаратуры. Ягоным імем названая ваенная інжынэрная вучэльня ў Вроцлаве. Магчыма, нашае стаўленьня да ўласнае гісторыі нарэшце зьменіцца, і мы будзем шанаваць не расейскіх генэралаў-заваёўнікаў кшталту Суворова, а сапраўдных герояў як Ясінскі, Касьцюшка, Рэйтан, Корсак, Агінскі.

*Алесь Варыкіш*

## Каляндар

### Вайна 1654—1667 гадоў

*(хроніка)*

**17 траўня 1654 году** на Літву вырушыла 20-ці тысячная казацкая коньніца гетмана Багдана Хмельніцкага...

**1 чэрвеня** старажавы полк цэнтральнае арміі маскоўскага цара ўжо падыйшоў да места Белы, і яно капітулявала...

**3 чэрвеня** тое-ж здарылася з Дарагабужам...

**11 чэрвеня** маскоўскі цар атрымаў зьвестку пра здабычу Невеля войскам Шереметьева.

**29 чэрвеня** капітуляваў Полацак, праўда, цэлыя тры дні царскім ваяводам давялося трымаць ў аблозе полацкі замак. Хоць большасьць шляхты ўцякла зь места й ў замку засталося толькі 36 (!) чалавек, стралялі яны гэтак трапна, што Шереметьев палічыў за лепшае прапанаваць абаронцам выгадныя ўмовы капітуляцыі. І 36 чалавек годна пакінулі замак.

**Неўзабаве** армія Трубецкого авалодала Рослававам.

**20 ліпеня** Радзівіл пісаў каралю Яну Казіміру з абозу, што жаўнераў ў яго фактычна толькі 4 тысячы, астатнія — некалькі тысячаў паспалітага рушаньня й павятовых харугваў — мала на што здатныя. «Каб павятовыя хоць гукам ці крыкам ахвотна паддавалі... — сумна іранізаваў ён. — Што тут рабіць? 4 тысячы на кавалкі ірваць ды ісьці на падмогу? Ці Літву бараніць... Толькі на Спадара Бога спадзямся, Той няхай сам нас ратуе.»

**22 ліпеня** «великою потугою и усилством през штурм» быў захоплены Амсьціслаўскі замак. Па шматлікіх сьведчаньнях відавочцаў тых падзеяў, пераможцы «места агнём выпалілі й людзей паселклі; народ ўсялякі шляхецкі, месьцічаў і жыдоў, а таксама простых людзей ў пень высеклі, потым, адтрубіўшы, сярод трупаў жывых знаходзілі й ў палон на Маскву забіралі, а скарбы ўсялякія забраўшы, замак і паркан ўвесь агнём спалілі й да званьня спустошылі».

**24 ліпеня** армія Василия Шереметьева захапіла Дзісну й Друю. Ваявода паведамляў цару, што Друю здабылі з боем: «Взяли взятьем и ратных и всяких людей, которые в городе сидели, побили и город и костелы и дома все пожгли без остатку...»

**9 жніўня** гэтая-ж армія заняла Глыбокае.

**12 жніўня** пад Шкловам Януш Радзівіл прыняў бой з войскам Черкасского. Пры вялізнай дыспрапорцыі сілаў (ў Черкасского было ня меньш за 20 тысячаў, а ў Радзівіла — 4 тысячы), але Радзівіл змог нанесьці непрыяцелю надзвычай цяжкія страты — ад 3 да 7 тысячаў! — і на'т захапіў 610 палонных, а ягоных загінула ўсяго каля 700 чалавек. Гэта была апошняя перамога вялікага гетмана...

**13 жніўня** Гомель адкрыў сваю браму. Гомельскі гарнізон цудам ўратаваўся — ўцёк ў Стары Быхаў.

**16 жніўня** ваявода Стрешнев «город Усвят осадил накрепко, и с того числа августа по 23 число с литовскими людми бились днем и ночью беспрестанно», пакуль 23 жніўня усьвяцкі падстараста не адкрыў мескую браму.

**20 жніўня** было занята Азярышча, Віцебск.Шляхта ўцякала ўжо зь Нясьвіжу ды Вільні, аплакваючы пагібель Айчыны.

**28 жніўня** капітуляваў Магілёў.

*паводле кнігі "Невядомая вайна"*
*Генадзя САГАНОВІЧА.*

Адказныя за дакладнасьць фактаў, пададзеных ў артыкулах, ёсьць аўтары публікацыяў.

**Заснавальнікі:**
Ўладзімер Міхневіч (рэдактар)
Ўладзімер Пятровіч
Алесь Стральцоў
**Набор:**
Аляксандра Годзіна
**Вёрстка:**
Антон Гіро
**Тэлефон ў Менску:**
57-31-83 (Міхневіч Ў.)
**Адрэса:**
220113, Менск-113, а/с 448
Ўладзімеру Пятровічу
**E-mail:**
sasha@by.glas.apc.org

Спасылка на "ЛІТВУ" абавязковая.